ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 101 (1738) | Аўторак, 18 снежня 1962 года | Цана 4 кап.

У ГЭТЫМ НУМАРЫ





У гэтыя дні, калі савецкія людзі абмяркоўваюць і ажыццяўляюць рашэнні лістападаўскага Пленума ЦК КПСС, асабліва многа стала пакупнікоў у мінскім магазіне «Навукова - тэхнічная кніга». Пакупнікі прыходзяць сюды, каб набыць розную грамадска-палітычную літаратуру.

Прадавец аддзела грамадска-палітычнай літаратуры камсамолка Ніна Гурская памагае пакупнікам падбіраць неабходную літаратуру.

Вось і зараз вы бачыце яе (справа) з наведвальнікамі магазіна.

Фота Н. САЛАУЯ.

# ЗАЛАТЫЯ РОССЫПЫ

2 Дэкада самадзейнага мастацтва БССР. Мінск 1962

Тры аддзяленні, цэлых тры гадзіны заняло выступленне на Дэкадзе пасланцоў шматлікай самадзейнасці Гомельшчыны. Сталічныя гледачы цярпліва і ўважліва прагледзелі і праслухалі ўсё, што выканалі самадзейныя артысты, хоць, шчыра кажучы, частка нумароў праграмы не вызначалася высокім майстэрствам, трапляліся сярод іх і проста слабыя, невыразныя.

Вось выступае Тураўскі хор (кіраўнік М. Бяспалаў). Выкананыя ім: патрыятычная песня «Між Дняпром і Сожам» (музыка М. Бяспалава, словы Хв. Жычкі) і жартоўная народная песня «А я ў печы не паліла», запісаная і апрацаваная кіраўніком хору,—прагучалі свежа і выразна.

Вось залу запаўняюць гераічныя акорды бетховенскай уверцюры да трагедыі Гётэ «Эгмант». У ролі выканаўцы—аркестр народных інструментаў Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна. Музыка вялікага кампазітара аказалася блізкай і даступнай аматарам, і яны здолелі даволі пераканаўча раскрыць складаную аркестравую партытуру. Тут жа мы знаёмімся з творчасцю гарадскіх акапэльных хораў Гомеля і Мазыра і цэлага раду салістаў, якія спрабуюць свае сілы ў розных жанрах, пачынаючы ад вакала і канчаючы акрабатыкай. Калгасны ансамбль песні і танца сельгасарцелі «XXII з'езд КПСС» Гомельскага раёна паказаў своеасаблівую музычна-харэаграфічную кампазіцыю «Плывуць над вёскай песні шчасця», пабудаваную на мясцовым матэрыяле.

Я ўжо сказаў, што не ўсё ў праграме гамяльчан было па-сапраўднаму апрацавана і адшліфавана, не ўсё мела закончаны выгляд. Асабліва слаба, ніжэй сваіх магчымасцей, выступіў рэчыцкі ансамбль «Дняпро». Але гледачы не сумавалі — яны верылі, што многія недахопы гэтага канцэрта пакрыюцца і «кампенсуюцца» за кошт трэцяга аддзялення, якое цалкам прадастаўлялася ў распараджэнне вядомага Народнага ансамбля песні і танца Гомельскага Палаца культуры імя Леніна.

...Далёка адыходзяць удалечыню сталёвыя шляхі-дарогі, апяразваючы ўсю нашу краіну з канца ў канец. Самааддана працуюць на чыгуначных магістралях людзі з сінімі пятліцамі на шынялях і пінжаках, людзі вялікай волі, вясёлыя і дабрадушныя. Вось ім, савецкім чыгуначнікам, і прысвяцілі ўдзельнікі народнага ансамбля сваю вакальна-харэаграфічную кампазіцыю «З песняй у дарогу» (балетмайстар А. Рыбальчанка, хормайстар і дырыжор М. Дымант).

І тут жа хочацца ўспомніць выступленне на Дэкадзе не менш цікавага па сваіх выканаўчых якасцях Народнага ансамбля песні і танца «Нёман» (мастацкі кіраўнік А. Чопчыц), з якога пачаўся паказ самадзейнага мастацтва Гродзеншчыны. Ансамбль «Нёман», ідучы ў сваёй творчасці таксама па шляху стварэння цэласных, змястоўных праграм, мае, у адрозненне ад іншых калектываў такога тыпу, нацыянальную акрэсленасць і яркую самабытнасць. Выкананая ім вакальна-харэаграфічная кампазіцыя «Наднёманскія зоры» складаецца з народных танцаў, а таксама песень, створаных гродзенскім самадзейным кампазітарам А. Шыдлоўскім і хормайстрам А. Валынчыкам. Ад гэтай кампазіцыі павявае тонкім водарам палёў і лясоў квітнеючага Прынёманскага краю, яна хвалюе сваімі звонкімі пявучымі мелодыямі, весяліць душу маляўнічымі танцавальнымі пастаноўкамі.

Увогуле справаздачны канцэрт аматараў Гродзеншчыны— выдатны сінтэз разнастайнага па жанрах савецкага мастацтва, дзе знайшлі месца лепшыя ўзоры беларускага традыцыйнага фальклору і сучасныя творы— на тэмы сённяшняга дня. Удала выступілі Народная харавая капэла калгаса «Сцяг Саветаў» Навагрудскага раёна і самадзейны сімфанічны аркестр г. Гродна. Прыемна было пазнаёміцца і з зусім маладымі калектывамі — хорам калгаса «Гігант» Лідскага раёна і цымбальным аркестрам Смаргонскага Дома культуры. Яны ўзніклі ў дні падрыхтоўкі да Дэкады і, тым не менш, паспелі ўжо набыць нейкія свае індывідуальныя рысы. А колькі тонкага гумару было ў выступленні вядомага вакальнага квінтэта з калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна, колькі смеху выклікала ў глядзельнай зале літоўская «Полька старых» у выкананні танцораў калгаса «Рассвет» Астравецкага раёна.

Калі ў канцэрце ўдзельнічае шмат розных калектываў і салістаў, дык тыя, каму даводзіцца завяршаць праграму, іншы раз трапляюць у не зусім выгоднае, цяжкае становішча. Бо трэба да канца ўтрымаць увагу прысутных у зале, зацікавіць іх нечым новым, не падобным на папярэднія нумары. Менавіта ў такім становішчы апынуліся ўдзельнікі самадзейнасці Мінскай і Магілёўскай абласцей, якія выступалі на Дэкадзе апошнімі. І ўсё ж мінчане і магіляўчане паказалі на дэкадных канцэртах шмат свайго, непаўторна яркага і запамінальнага па думцы, па мастацкаму ўвасабленню.

Гонар Міншчыны — выдатныя пеўчыя калектывы: Лебедзеўская капэла (калгас «Беларусь» Маладзечанскага раёна), народныя хоры калгасаў «Першае мая» Нясвіжскага раёна і «Зара» Клецкага раёна. Прыемнай нечаканасцю з'явілася выступленне вялікага ансамбля дудароў г. Капыля, у суправаджэнні якога ўдзельнікі самадзейнасці вёскі Цімкавічы выканалі маляўнічы «Дзявочы карагод».

Прыкметная рыса праграмы магіляўчан — яе сучаснае гучанне і баявая актуальнасць тэматыкі многіх нумароў. Так, ансамбль танца Магілёўскага завода штучнага валакна паказаў сюіту «Дружба», а самадзейнасць Бабруйскай фабрыкі імя Дзяржынскага — вялікую музычна-драматычную кампазіцыю «Мы да камунізма трымаем шлях». Іншая справа, што выканаўцам яшчэ не хапае сапраўднай выканаўчай культуры, наперадзе іх чакае значная работа па ўдасканаленню пеўчага майстэрства і адточанасці тэхнікі танца. Парадавалі сваёй ансамблевасцю і манерай выканання асобных нумароў самадзейны сімфанічны аркестр і Народная харавая капэла г. Магілёва.

Пасля таго, як учора адбыўся прагляд спектакля «Травіята» ў пастаноўцы аматараў Палаца культуры прафсаюзаў, вялікая праграма Дэкады самадзейнага мастацтва рэспублікі цалкам вычарпана. Сёння на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета адбудзецца заключны канцэрт лепшых з лепшых.

Г. ЗАГАРОДНІ.

Пісьменнік і час

# КРЫЛЫ НАШАЙ ПАЭЗІІ

Мікола АРОЧКА

Адзін з сучасных паэтаў сказаў, што наш свет падобны на дом з тонкімі сценамі, дзе кожны сусед ведае ўсё пра свайго суседа. Вялікія адкрыцці чалавецтва, на якія так багата нашая пара, сягоння хутчэй чым калі-небудзь робяцца здабыткам усіх нацый, вялікіх і малых. Асабліва вялікая «гукаправоднасць» і ўзаемапранікненне ў свеце культурных адкрыццяў.

Раней, скажам, спатрэбілася больш чым паўстагоддзя, пакуль перад вачыма рускага чытача зарунелі першыя «Лісці травы» Уітмана, а «Усеагульную песню» Пабло Неруды, пісаную на тым жа самым мерыдыяне, мы сягоння пачулі ўсе і адразу ж. Справа, мусіць, не толькі ў навейшых тэхнічных сродках пашырэння мастацтва —радыё, кіно, тэлебачанне (пры жаданні можна ўрэшце перагарадзіць дарогу і радыёхвалі). Галоўнае—мяняюцца адносіны да агульначалавечай скарбніцы мастацтва, з'явілася неадольная патрэба чэрпаць з гэтай скарбніцы і класці ў яе тыя залатыя крупіцы людскога вопыту і чыстага пачуцця, без якіх мы цяпер выглядалі б духоўна бядней.

Лепшыя здабыткі сусветнай літаратуры, зразумела, не могуць не ўплываць на нашу творчасць. Агульнавядома, што з усіх паэтаў, якія найбольш уздзейнічалі на творчасць Маякоўскага, быў Уітман. Маякоўскага цікавіў перш за ўсё наватарскі, рэвалюцыйны кірунак паэзіі свайго папярэдніка. Цяпер узаемастасункі літаратуры сусветнай і сваёй, нацыянальнай, сталі яшчэ больш адчувальныя і відавочныя. Аб слядах творчай вучобы нашых маладых паэтаў не раз гаварылася ў друку. Новы свет перад намі адкрылі сваёй наватарскай паэзіяй Назым Хікмет і Пабло Неруда, Поль Элюар і Бертольт Брэхт, Бранеўскі і Лугаўской, паэты Афрыкі і Антыльскіх астравоў. І ўсё ж праблема наватарства ўзнікла ў нас не толькі пад уздзеяннем хай сабе і лепшых таленавітых узораў літаратуры свету. Яна народжана патрэбамі часу і на сваім нацыянальным грунце.

Ці можа наша паэзія стаць упоравень са сваёй эпохай, беручы з арсенала традыцыйных сродкаў зброю старога «ўзору»? Цяпер з моладзі бадай ніхто не сумняваецца, што кансерватыўная форма шкодна адбіваецца на змесце твора, што пара перагледзець традыцыйныя сродкі: верш, слоўнік, прыёмы стварэння вобраза і інш. Трэба вярнуць слову яго моц...

Могуць запярэчыць, што слова—гэта зброя не адной эпохі, а многіх стагоддзяў. Ласка, крыўда, праца, шыбеніца, лічыць, вызваляць, разумець — гэтыя і многія іншыя словы нашай мовы служылі аднолькава, напрыклад, першадрукару Скарыне, а таксама Багушэвічу і Купале. І ўсё ж сіла ўздзеяння нашага слова ў нейкай меры аслабілася. Магчыма таму, што ў апошнія часы мы залішне бяздумна і несур'ёзна з ім абыходзіліся: «прыгожыя» і «высокія» словы не заўсёды грунтаваліся на шчырым, адкрытым пачуцці і вельмі ж часта разыходзіліся са справай. І слова пачало помсціць нам—стала перарастаць у крыклівасць, у гучныя дэкларацыі, а працей кажучы—фальшывіць.

Скажыце, ці не з'яўляецца наша спрэчка аб наватарстве адначасова і вялікай нашай прагай— вярнуць слову яго «першародную» моц, сілу мастацкага ўздзеяння? А гэтага ж дасягнуць нельга пры дапамозе застарэлых традыцыйных сродкаў, зацяганых і сцёртых, з «падсвядомым» грузам дэкларацыйнасці. Паэтычныя стрэлы старога вырабу не абуджаюць думкі і сэрца, а толькі марна слізгаюць па паверхні нашага ўспрыняцця.

Колькі раз бяром мы як бы напракат даўно апрабаваную вершаваную форму, «асвойваем» яе адпаведна сваёй задуме, а потым раптам заўважаем, што нашаму пачуццю робіцца цесна ў гэтым «пракруставым ложы» трох- ці пяцістопнага памеру. Раскаваць, або як кажуць «раскалыхаць» радок суладна пачуццю твайго героя ўдаецца толькі тады, калі смялей адкінеш прывычныя прыёмы і сродкі, а часта — і прынцып іх «вынаходства». Зрабіць гэта ўдаецца больш тым, хто рашуча ступіў на шлях пошукаў. Колькі эксперыментальнасці на гэтым шляху, але ж і колькі добрых удач.

У адным з нумароў «Літаратуры і мастацтва», у якім працягвалася дыскусія пра пісьменніка і час, на паэтычную паверку выйшлі Пятрусь Макаль, Ніл Гілевіч і Еўдакія Лось. У кожным са змешчаных вершаў ёсць свае вартасці, але мне хацелася б спыніцца толькі на «Раніцы» П. Макаля. Чытаеш гэты верш і на хвіліну забываеш, што знаходзішся ў пакоі—не, ты ідзеш па свежай з ночы і поўнай ранішніх трывог вуліцы, ідзеш услед за аўтарам, насцярожана і часам падазрона прыглядаючыся да таго, што ўбачана яго паэтычным вокам:

**Мой гадзіннік-будзільнік цікае,**
**Як міна**
**замаруджанага дзеяння.**
**Здзіўляюся, здзіўляюся...**

Як чытач, я здзіўляюся пакуль што другому: прычым тут гэты метафарычны вобраз? Ці да месца ён?

Будзільнік як увасабленне нашых дзённых і будзённых спраў з нейкай прычыны параўноўваецца з мінай замаруджанага дзеяння. Вобраз міжволі выклікае напружанне. На нейкую долю секунды ён асацыятыўна перанёс мяне да трывожных дзён вайны... Але ж далей у вершы ідзе будзённы клопат вуліцы — паставы, што «прамаргаў—не прадзіравіў правы», парачка — плацце, якое «гімнасцёрка зялёная канваіруе». Апошні «ваенны» тэрмін выклікае толькі добрую ўсмешку. Гэта не згладжвае аднак закінутую ў сэрца трывогу, чаканне.

І вось у верш урываецца той жа самы лейтматыў: кабета тупае на круглую плошчу, да абеліска, «будзіць нарачонага». І раптам, як выбух:

**Бачу, як чалавек чыкільгае:**
**стук-стук!**
**Хто гэта —**
**генерал ці пастух?**
**Цяжка дыбаць:**
**на мыліцы**
**раскалыханы з вайны**
**Паскрыпвае шар зямны.**

Дэталі, што ўспыхвалі паасобку, сплавіліся ў адно: у адчуванне раскалыханай з вайны грознай трывогі, якая, нібы міна замаруджанага дзеяння, адбівае свае секунды. «Цяжка дыбаць» — бо пагроза людскога трагізму яшчэ не разміравана! З апошняй страфы перад намі ўзнік «сямігадовы, бядовы» снайпер — можа ён, падросшы, возьме на мушку самую смерць?

РОЗДУМ
МЕРКАВАННІ
ПАЛЕМІКА

Верш гэты свежы па ўспрыманню, не скаваны ў форме, багаты на асацыяцыі, на падтэкст. Міжволі пераносішся думкай на іншыя творы маладой паэзіі — на «Стронцый» Анатоля Вярцінскага і некаторыя фрагменты паэмы «Стрэл у твар смерці» Алеся Наўроцкага. У адзін рад іх ставіць не толькі тэматычная, а менавіта наватарская па свайму кірунку блізкасць, незвычайны, зусім нечаканы погляд на з'явы свету, абвостранае ўспрыманне і як вынік—разумова-метафарычнае бачанне. У чым эмацыянальная сіла такіх, напрыклад, страшных радкоў пра вайну: «Пада мной у зямлі песня гніе, гніюць пацалункі, усмешкі і смех гніюць»? Не думаю, што сакрэт увесь, — як піша ў сваім дыскусійным артыкуле В. Говар, — у «дзіцячым па сваёй прыродзе поглядзе на ўсе рэчы свету». Наадварот, **па сваёй прыродзе** гэта складаная разумовая абстракцыя, якой надана зрокавая канкрэтнасць, гэта асацыятыўны метафарычны вобраз, у якім зліваюцца ў адно цэлае катэгорыі разумовага і рэальнага. Праўда, сам прынцып будовы такога вобраза даўно вядомы літаратуры. У прыватнасці, вышэй прыведзеная метафара з'яўляецца, на маю думку, рэмінісцэнцыяй вобраза Пабло Неруды — «у зямлі закапаныя жальба і слёзы».

Паэзія такога кірунку звычайна не прымаецца прыхільнікамі традыцыйных форм. У нашым выдавецтве яшчэ могуць нават сказаць: «Нашае начальства белых вершаў не любіць — давайце лепш здымем іх з кніжкі». Часам на самыя шчырыя пошукі абавязкова глядзяць як на «прэтэнзіі», як на «моду» або на нейкія «адрыжкі». Гэта вядзе да густаўшчыны, да сваяволля ў ацэнцы.

Ёсць аднак і больш паблажлівы погляд на паэзію пошукаў, хоць ён таксама не менш кансерватыўны і шкодны. Погляд гэты зыходзіць з такой «філасофскай» высновы: усё, маўляў, ідзе да «святой прастаты». Папрактыкуецца аўтар у складаных метафарычных вобразах, у арытмічных ходах і формах, а сцежачка ўсё адно прывядзе яго да класічнага верша. І абавязкова спасылаюцца чамусьці на творчы шлях Маякоўскага, які хоць і пачаў з адмаўлення паэтычных канонаў, але («каб яшчэ пажыў»!) то непазбежна прыйшоў бы да класічнага верша. У пацвярджэнне прыводзяцца фрагменты з паэмы «Хораша!»

Не будзем гадаць аб праўдападобнасці такіх здагадак, скажам толькі, што гэтыя довады, калі б іх прымала наша моладзь усур'ёз, нарабілі б нямала шкоды, бо яны па сутнасці адмаўляюць правамернасць імкнення да пошукаў, да наватарства. Нашто пазнаваць сакрэт складанага метафарычнага вобраза калі ўсё адно прыйшлося б яго адкінуць і пісаць «пад частушку»! Думаецца, што і Маякоўскі ніколі б не здрадзіў сваёй самабытнасці, як не здрадзілі ёй ні Уітман, ні Поль Элюар, ні Лугаўской.

Імкненне да лаканізму, якое прыходзіць са сталасцю майстэрства, нельга разумець як зварот да «святой прастаты». Зрэшты, і само паняцце «прастаты» намнога змянілася. Мне здаецца, што простая паэзія толькі тая, якая выбірае самы просты шлях да людскога сэрца. Менавіта такі шлях абралі сабе лепшыя творы Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі і Анатоля Вялюгіна, Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна.

Дарэчы, прыхільнікі паэтычных канонаў у якасці аднаго са сваіх аргументаў любяць браць вершы. Аркадзя Куляшова, для якіх і сапраўды надзвычай арганічна прастата. Але гэтая мастацкая прастата не што іншае як лаканізм, а не спрошчанасць. Гэта таксама наватарства.

У паэта ніколі не было жадання «спрошчана гаварыць аб складаным» (як сцвярджае ў сваім артыкуле Барыс Бур'ян), а было і ёсць адно імкненне — аб складаным пісаць вобразна, лаканічна. Гэта добра пацвярджае яго новае паэтычнае выступленне з «шаснаццацірадкоўямі», моцна звязанымі ў важкія «снапы» («Полымя» № 10 за 1962 г.). «Снапы» гэтыя аднаго ўраджаю, адной шырокай задумы — «абняць зямлю» і сусвет. Лаканічны разгорнуты вобраз нечакана ўспыхвае перад нашымі вачыма то адной, то другой сваёй гранню, нібы крыштальная ваза, у якой іскрыцца дасціпная і шырокая паэтычная думка. Вось адна з метафарычных граней:

**Ні перад злом, ні перад крывадушшам**
**Сцяг белы я ніколі не ўздыму...**

**Няхай злуюцца хвалі. Выклік смелы**
**Я пасылаю сам насустрач ім —**
**Свайго жыцця чырвоны сцяг! А белы —**
**Я пакідаю ворагам сваім!**

Шматгранны куляшоўскі вобраз — гэта як бы сістэма прызм, праз якія мы можам бачыць навакольны свет такім, якім бачыць яго паэт, — свет неабсяжны па ахопу: ад «калыскі вякоў» да новых «жылплошчаў, пазычаных у нябёс».

**Я — акіяну жытняга калоссе:**
**Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,**
**Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе...**

**Ператварацца буду зноў і зноў**
**З ідэі ў плоць, з жыцця ў жыццё другое...**
**Жыву і пачуццё ў мяне такое,**
**Як быццам мне не пяцьдзесят гадоў,**
**А пяць стагоддзяў — самае малое.**

У гэтым філасофскім поглядзе на сусвет ёсць нешта уітманаўскае. Але вышыня, з якой аглядаюцца «светы», ужо другая, сучасная. І яшчэ адно адчуванне прыходзіць, калі чытаеш Куляшова. Каб быць наватарам у паэзіі, не абавязкова разбураць знешнюю абалонку страфы. Куды важней напоўніць яе смелым зместам, новым светаадчуваннем. Гэтую думку пацвярджае і паэзія І. Бехера, у якога любімай формай быў санет...

Вельмі высока цаніў новыя мастацкія прыёмы, новыя формы Аляксандр Фадзееў. Ён лічыў, што без іх немагчыма далейшае развіццё мастацтва. Аднак наватарства ён разумеў значна шырэй: «Наватарам мы называем пісьменніка, які перш за ўсё адкрыў **новае ў жыцці**, адкрыў і па-мастацку ўвасобіў гэта новае ў яго развіцці, у перспектыве». Гэтыя фадзееўскія словы маюць самае непасрэднае дачыненне да нашай дыскусіі «Пісьменнік і час». Адкрыццё новага ў жыцці залежыць першым чынам ад меры пісьменніцкай актыўнасці ў адносінах да нашай рэчаіснасці, ад страснай патрэбы мастака ўмешвац-

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# АЛОВАК МАСТАКА КАМЕНЦІРУЕ...

Палітыка ЗША ў адносінах да Кубы — самая раз'юшаная, рэакцыйная палітыка. Аб'явіць, быццам Куба пагражае Амерыцы або якой-небудзь іншай краіне, і прысвоіць сабе на гэтай падставе асобнае права выступаць супраць Кубы — гэта проста жудасна.

Заходнегерманскія рэваншысты ўжо многа гадоў служаць чорнай справе распальвання ваенных канфліктаў і заўсёды спяшаюцца з гаручым матэрыялам туды, дзе ствараецца крызіснае становішча. Ім карціць падліць масла ў агонь, каб выбухнула полымя вайны.

Сярод кіруючых колаў ЗША ёсць такія палітыкі, якіх правільна называюць «шалёнымі». «Шалёныя» настойвалі і настойваюць на тым, каб хутчэй развязаць вайну супраць Савецкага Саюза і краін сацыялістычнага лагера.

(З даклада М. С. Хрушчова на другой сесіі Вярхоўнага Савета СССР).




Мал. Ул. БАРАНОЎСКАГА.

# КАЛІ ПРЫЗВАННЕ ТВАЁ—САТЫРА

У снежні мінулага года рэдакцыяй часопіса «Вожык» была праведзена цікавая нарада. На яе выклікалі вялікую групу пачынаючых пісьменнікаў і журналістаў, якія зарэкамендавалі сябе ў жанры «палымянай сатыры», выступалі з гумарэскамі, байкамі, фельетонамі на старонках «Вожыка» і іншых выданняў перыядычнага друку, у тым ліку абласнога і раённага.

І вось сёлета як бы адбыўся працяг гэтай гаворкі. Саюз пісьменнікаў БССР і рэдакцыя «Вожыка» правялі дзесяцідзённы семінар маладых сатырыкаў. На семінар з'ехалася каля дваццаці чалавек. Пераважная большасць з іх ужо заявіла аб сваім прызванні на старонках друку, неаднаразова выступіла з цікавымі творамі. Чытачу вядомы сатырычныя вершы і байкі А. Кобец-Філімонавай А. Грачанікава, Э. Зубрыцкага, Ул. Карызны, А. Кузняцова, К. Камейшы, М. Макарчука, С. Пацёмкіна, І. Шашка, пародыі Г. Юрчанкі, сатырычныя апавяданні і гумарэскі Р. Падневіча, І. Славіна, І. Падбярэжскага, Д. Шостака і іншых.

Магчыма, што ўжо сам склад семінара ў нейкай меры прадвызначыў поспех яго работы. Але ў першую чаргу трэба аддаць належнае арганізатарам семінара—яны нямала зрабілі для таго, каб семінар прайшоў змястоўна, даў сапраўдную карысць, добрую творчую зарадку яго ўдзельнікам. Вучоба праводзілася ў розных формах. Спачатку маладыя сатырыкі праслухалі даклад, з якім выступіў рэдактар «Вожыка» Павел Кавалёў. Потым яны мелі магчымасць сустрэцца і пагутарыць з адным з бацькоў беларускай сатырычнай літаратуры Кандратам Крапівой. Перад імі выступіў і падзяліўся сваімі думкамі аб майстэрстве сатырыка Максім Лужанін. Шмат карыснага пачулі ўдзельнікі семінара ад маскоўскага пісьменніка Міхаіла Эдэля.

Добра была арганізавана і ўласна «рабочая» частка семінара—заняткі па секцыях, у якіх прынялі ўдзел Іван Грамовіч, Анатоль Астрэйка, Раман Сабаленка, Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Міхась Скрыпка, Уладзімір Корбан, Сяргей Дзяргай, Ніл Гілевіч, Эдуард Валасевіч, Еўдакія Лось. Разгляд твораў маладых меў сапраўды творчы характар.

І натуральна таму, што калі ўдзельнікі семінара і яго арганізатары сабраліся на апошняе, заключнае пасяджэнне, каб падвесці вынікі сумеснай дзесяцідзённай працы, то была выказана аднадушная думка: семінар быў карысны.

Былі ўзняты ў апошняй размове—як гэта бывае звычайна пры падвядзенні вынікаў — некаторыя канкрэтныя пытанні, унесены прапановы, былі выказаны ўзаемныя пажаданні. Удзельнікі семінара, напрыклад, узнялі пытанне аб тым, каб пры Саюзе пісьменнікаў БССР была створана секцыя сатыры і гумару ці хаця б адпаведнае літаратурнае аб'яднанне пры часопісе «Вожык». Выказваліся імі і думкі аб зборніку твораў маладых сатырыкаў, які варта было б выдаць у бібліятэчцы «Вожыка». А. Кузняцоў гаварыў, што некаторыя рэспубліканскія часопісы і газеты мала ўдзяляюць увагі сатырычным жанрам — байцы, гумарэсцы, вершаванаму фельетону. Як бы развіваючы думку Кузняцова, паэт Кастусь Кірэенка заўважыў, што добра было б, калі б удзельнікі вось такіх семінараў і нарад мелі магчымасць пабываць у рэдакцыях часопісаў і газет і там, на месцы, разам з супрацоўнікамі таго ці іншага выдання пагутарыць, прапанаваць свае творы.

У сувязі з рашэннем лістападаўскага Пленума ЦК КПСС аб аднаўленні ленінскіх прынцыпаў партыйна-дзяржаўнага кантролю яшчэ больш узрастае роля работнікаў пяра, у прыватнасці пісьменнікаў-сатырыкаў, закліканых выкрываць усё тое, што перашкаджае нашаму руху наперад. Маючы гэта на ўвазе, намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін, закрываючы семінар, заклікаў маладых сатырыкаў:

— Больш актыўна, больш смела ўмешвайцеся ў жыццё. Пішыце не толькі байкі і гумарэскі, а і выкарыстоўвайце такія баявыя аператыўныя жанры, як фельетон, сатырычная нататка і г. д. Адным словам, будзьце грамадзянамі. Без гэтага нельга быць сапраўдным сатырыкам.

# УЗНАГАРОДЖАННЕ А. РУСЕЦКАГА

За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР пісьменнік Русецкі (Бурдзялёў) Аляксей Сцяпанавіч узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## Дэкада самадзейнага мастацтва



Вядзе праграму канцэрта ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна Мая Мярзляк.

Слова пра маладшага сябра

# ФАРБЫ ГЕРАІЧНАЙ СЮІТЫ

**М. ГУЦІЕЎ,**
мастак



Сапраўдная творчасць, як правіла, адлюстроўвае індывідуальныя якасці мастака. Так і ў графічных работах Арлена Кашкурэвіча — яго сумленне, яго погляды і ідэалы. Гэта адчуваецца амаль у кожным станковым лісце, у кожнай ілюстрацыі — эмацыянальна дзейсных, глыбока вобразных, запамінальных. Ад кнігі да кнігі, ад малюнка да малюнка ўдасканальваецца яго талент. Яшчэ гады вучобы ў тэатральна-мастацкім інстытуце вызначылі маладога мастака як графіка. Упартасць, удумлівасць, мэтанакіраванасць спрыялі поспеху дыпломнай работы.

Але гады вучобы — гэта яшчэ толькі пачатак, першая прыступка. Маладому мастаку хацелася ўвайсці ў жыццё па ўсім фронце: графіка, жывапіс, спорт. Я быў літаральна збянтэжаны, калі ўбачыў у спортзале трошкі замкнёнага, задуменнага студэнта, які выраблаў галавакружальныя сальта і іншыя цуды партэрнай акрабатыкі. У тонкай, амаль хваравітай постаці таілася вялікая сіла. І неяк міжволі прыгадаліся яго ілюстрацыі. У іх за вонкавай прыгажосцю ліній заўсёды адчуваецца глыбокая ўнутраная выразнасць і сіла.

Міналі гады, і графіка, эстамп занялі ў працы А. Кашкурэвіча галоўнае месца. Асабліва ўпарта ён авалодваў майстэрствам кніжнай графікі. Кніга стала для яго прадметам пільных даследаванняў і вывучэння. Вучоба ў інстытуце пад кіраўніцтвам вопытнага педагога П. Любамудрава арганічна злівалася з сістэматычнай працай над мастацкім афармленнем беларускіх выданняў. Для кожнай чарговай серыі ілюстрацый, для кожнай вокладкі ён знаходзіў новыя, больш выразныя графічныя сродкі, больш вострае кампазіцыйнае вырашэнне. Але, бадай, першай вялікай і па-сапраўднаму глыбокай работай для А. Кашкурэвіча была яго дыпломная графічная сюіта да кнігі ісландскага пісьменніка Х. Лакснеса «Атамная станцыя».

Малады мастак меў магчымасць узяць для дыплома любую кнігу з выдавецкага плана. Але, каб не быць звязаным ні тэрмінамі, ні пэўнымі паліграфічнымі абмежаваннямі, ён спыніўся на кнізе, якая не была ўключана ў выдавецкі план. Чытаючы раман Х. Лакснеса «Атамная станцыя», А. Кашкурэвіч захапіўся яго сацыяльна вострай ідэяй, глыбінёй мастацкага адлюстравання. Прачытаўшы кнігу, мастак неяк адразу ўбачыў вобразы яе ў малюнках. Усё больш ясна вырысоўваўся мастацкі строй будучай графічнай сюіты, кампазіцыйная задума. Але гэта прыйшло не само па сабе. У працэсе доўгіх пошукаў разнастайнасць сюжэтных пабудоў спалучалася з адзінствам стылю, мастацкай мовы, графічных прыёмаў. Былі перабраны многія тэхнічныя сродкі, і ўрэшце Арлен Кашкурэвіч спыніўся на трохкаляровай літаграфіі. Аднак не характар карэнчыкавай літаграфіі, што перадае градацыю тону, прывабіў мастака. Па тэхнічным прыёме яго ілюстрацыі не мелі ярка выяўленай спецыфікі гэтага віду эстампа, яны хутчэй нагадвалі лінагравюры. Своеасаблівая літаграфская манера вельмі ярка выяўляла мастацкую задуму графічнай сюіты. Спалучэнне чорнага, шэрага і жоўтага колераў давала вялікія магчымасці і разам з тым вымагала вырашэння ілюстрацый у чыста ўмоўным плане. У першым варыянце ілюстрацыі мелі хутчэй станковы, выставачны характар, які не заўсёды адпавядае спецыфіцы кніжнай ілюстрацыі (памер, прыём, што дазваляе разглядаць твор з вялікай адлегласці). Гэтай якасцю (экспазіцыйная выразнасць) вельмі выгадна вызначаліся работы А. Кашкурэвіча. Дыпломная работа была абаронена на выдатна. Выключна цёпла паставіўся да сюіты і аўтар кнігі «Атамная станцыя» — Х. Лакснес.

Па сутнасці твор А. Кашкурэвіча з'явіўся сур'ёзным укладам у беларускую графіку. Усе ілюстрацыі нібы ўзаемадзейнічалі адна з адной, дапаўнялі адна адну. У аснову сюжэтаў часта клаліся не вузлавыя, цалкам раскрытыя аўтарам эпізоды, а другапланавыя, іншы раз схаваныя ў аўтарскім падтэксце. Раскрыццё гэтых няўлоўных тэм узбагачала раман, паглыбляла яго сюжэтную лінію, нібы ідучы ва унісон з яго развіццём.

Першы варыянт сюіты складаўся з васьмі лістоў.

У лісце «Угла» на фоне акна буйным планам пададзены твар асноўнай гераіні рамана — дзяўчыны з поўначы Ісландыі, якая паступіла служанкаю ў дом важнага парламентарыя. А. Кашкурэвіч у гэтай кампазіцыі выступае як тонкі майстар псіхалагічнага партрэта. На твары Углы спакойная ўпэўненасць, сіла. Тут і думкі пра асабісты лёс, і думкі аб нечым вялікім, яшчэ да канца не ўсвядомленым. І нібы ў процівагу гэтаму, у другім лісце паказана ў роспачы чатырнаццацігадовая дачка гаспадара. Яна сядзіць маленькая, скурчыўшыся, на вельмі вялізнай, моднай канапе. На трэцім лісце ў пустым вестыбюлі стаіць ля яе ж паніклая постаць. На падлозе валяецца скінутае з плячэй дарагое футра. Твару не відаць (фігура дадзена са спіны), але ў руху адчуваецца ўвесь душэўны стан дзяўчынкі. У чадным жыцці «залатой моладзі» сталіцы растрачана яе светлае юнацтва.

У кнізе Х. Лакснеса недзе за дзвярыма кабінета Буі Арлана адбываецца спірытычны сеанс. Ён не апісваецца, а падаецца мімаходзь.— А. Кашкурэвіч раскрывае гэтую тэму, свядома падкрэсліўшы сатырычнымі сродкамі адно з пашыраных захапленняў прывілеяванага грамадства.

У тым жа напрамку зроблена ілюстрацыя да раздзела «Клятва». На балконе «маленькі, тоўсценькі, напышлівы чалавечак» з тэатральна ўзнятай рукой — гэта прэм'ер-міністр. Ён клянецца, што Ісландыя ніколі не будзе прададзена. На першым плане члены ўрада насцярожана перашэптваюцца — яны добра ведаюць цану клятвы прэм'ера. Сатырычнымі сродкамі раскрывае мастак сітуацыю і сам вобраз кіраўніка ўрада. Гледзячы на гэты патэтычны жэст, міжволі прыгадваеш сказанае аб ім Буі Арланам: «Калі ён (прэм'ер) публічна тройчы клянецца імем сваёй маці, тады можна з упэўненасцю сказаць, што ён думае зусім процілеглае...».

У сатырычным плане падаецца і ліст «Пахаванне сябра народа». Правіцелі і знатныя людзі нясуць труну. Ніякага «сябра народа» там няма і ў паміне. Уся гэтая камедыя разыгрываецца, каб утаймаваць народны гнеў. Гратэскавыя фігуркі з кампазіцыйна зрэзанымі галовамі, дробненька тупаючы і шаркаючы нагамі, нясуць дацкую гліну. І ўсе элементы кампазіцыі тут на дзіва ярка падкрэсліваюць тэму. У лісце «Вечарынка» вельмі скупымі сродкамі (раяль, туфель, бутэлька і ледзь намечаныя тры постаці) паказаны п'яны бедлам, наладжаны моладдзю.

У першым варыянце сюіты была таксама ілюстрацыя з запамінальнымі вобразамі старых жыхароў поўначы. Іх душэўны настрой быў перададзены вельмі выразна, аднак Кашкурэвіч вырашыў замяніць гэты ліст.

Так узнікла кампазіцыя пейзажнага характару, без дакладнага тэкставага адрасу, да раздзела «Краіна прададзена». Паўночная Ісландыя — суровы і пустынны край. Сярод голых пагоркаў — убогія хаціны, маленькая цэркаўка і абавязковыя спадарожнікі паўночнага пейзажу — коні са здзіўленнем глядзяць на звышмагутную амерыканскую машыну, што ўрэзалася дысанансам у гэты мірны пейзаж.

Чаму А. Кашкурэвіч зрабіў гэтую замену? Толькі таму, што ліст «Старыя жыхары поўначы» выпадаў з агульнага плана сюіты як па метаду раскрыцця тэмы (пабудова кампазіцыі на аснове тыпажаў і складанай мізансцэны), так і па стылявым вырашэнні (ускладнёная мадуляцыя формы). І яшчэ таму — гэта галоўнае, — што А. Кашкурэвіч заўсёды крытычна ацэньвае свае работы і рэдка бывае задаволены да канца той ці іншай ілюстрацыяй, тым ці іншым малюнкам.

Мастак цяпер працуе над трэцім варыянтам афармлення рамана Х. Лакснеса, па адзіным макеце, з вокладкаю, тытулам і іншымі элементамі кнігі.

Да кожнай новай работы А. Кашкурэвіч падыходзіць з новымі выяўленчымі сродкамі, па-новаму раскрывае сутнасць літаратурнага твора.

У мастацкім афармленні да кнігі Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне» (Дзяржвыдавецтва БССР, 1960) адчуваецца чыста кніжны характар сюіты, што ідзе ад адзінага макета, адзінага ансамбля. Гэтая серыя ілюстрацый характэрная стрыманасцю, я сказаў бы, скупасцю выяўленчых сродкаў. Зыходзячы з валатонаўскага графічнага стылю, чорна-белага малюнка, А. Кашкурэвіч знаходзіць новыя своеасаблівыя адценні тэхнічнага прыёму. Светлаценявы прынцып вырашэння тут носіць не жывапісны, а чыста графічны характар. Ілюстрацыі, выкананыя ў чорных лінагравюрах, ствараюць уражанне вялікага стылявога адзінства.

Некалькі ізалявана глядзіцца вокладка гэтай кнігі. Яе празмерная квяцістасць нічым не апраўдана. Яна кампазіцыйна рыхлая, хоць і выразная па сваім псіхалагічным стане. Гэта тым больш прыкра, што мы ведаем Кашкурэвіча як мастака з вялікім пачуццём кніжнага ансамбля.

Тры купалаўскія паэмы ўпершыню атрымалі належнае графічнае афармленне ў выкананні А. Кашкурэвіча. У гэтай гравюрнай сюіце мастак выступае як майстар эпічнай ілюстрацыі. Суровасць, рамантычная сіла, глыбокая задуменнасць — вось тыя якасці, якія пераконваюць у высокім узроўні гэтага запамінальнага мастацкага афармлення.

У асобе А. Кашкурэвіча беларуская літаратура атрымала добрага майстра кніжнага афармлення, які клапатліва ставіцца да аўтарскага тэксту, да стылявых і кампазіцыйных асаблівасцей твора пісьменніка ці паэта. Разам з тым ён не з'яўляецца пасіўным акампаніятарам вядучага літаратурнага пачатку. Яго графічныя сюіты выступаюць на роўных творчых правах з літаратурным творам, і ў гэтым, бадай, найвышэйшая значнасць яго кніжнай графікі.

У апошняй станковай сюіце А. Кашкурэвіча «Аэрапорт» няма адзінай сюжэтнай сувязі. Адзінства серыі ідзе хутчэй ад чыста выяўленчай асновы, ад асаблівага настрою. Нешта трывожнае і разам з тым моцнае і ўпэўненае адчуваецца ў кожным лісце серыі. Які б ліст мы ні ўзялі: «Аэравакзал», «Радары», «Старт», «Раніца», «Насільшчыкі» — усюды адчуваецца ўнутранае адзінства, эмацыянальная агульнасць.

У гэтай сюіце вельмі тонка выкарыстана спецыфіка літаграфскай тэхнікі. Мастак віртуозна ўжывае яе для дасягнення максімальнай выразнасці кожнага ліста. Магчыма, гэтая графічная серыя выкліча самыя розныя ацэнкі гледача. Аднак ужо цяпер можна сказаць, што ў творчасці Арлена Кашкурэвіча яна адкрывае новы этап, этап работы над буйнай станковай сюітай, у якой ён паказаў сябе сталым майстрам эстампа. І гэта самае радаснае, што ў кожным новым сваім творы мастак нібы ўзнімаецца на новую ступень.

Нялёгкі шлях да вяршынь майстэрства. Але ён пад сілу таленавітым, натхнёным, упартым.



А. КАШКУРЭВІЧ. «РАНІЦА». З серыі «Аэрапорт».

З рэспубліканскай мастацкай выстаўкі 1962 года.

# КРЫЛЫ НАШАЙ ПАЭЗІІ

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

ца ў жыццё, змяняць яго адпаведна нашым ідэалам.

На маю думку, увогуле наша паэзія звузіла поле сваёй дзейнасці і развіваецца досыць аднабакова. Яна нават не прэтэндуе чамусьці быць «кнігай жыцця», бо для гэтага ж трэба бачыць не толькі «паэтычныя» бакі рэчаіснасці, але і «прозу» жыцця ва ўсёй яе складанасці. А прозай жыцця наша паэзія беспадстаўна пагарджае. Гэтая няўвага да вострых, часам непажаданых з'яў рэчаіснасці зніжае яе ваяўнічы характар, яе грамадзянскі пафас. Ці не ўздымаем мы гэтым самым «белы сцяг» перад цяжкасцямі ў жыцці?

Я, напрыклад, цалкам далучаюся да гнеўнай думкі Сартра, які ў адным са сваіх артыкулаў вінавацціць Флабера за тое, што ён, будучы Флаберам, маўкліва глядзеў на рэпрэсіі над камунарамі і не напісаў ні радка ў іх абарону.

Наватарства, якое ўздымаецца моладдзю як сцяг, якраз і мае на мэце вось гэтую **грамадзянскую** непрымірымасць, прагу ўмешвацца і перайначваць жыццё, каб на шляху, па якому ідзём, было чым найменш камянёў і калдобін.

У сваіх пошуках самага дзейснага слова мы, аднак, не заўсёды стараемся разабрацца, што нам спрыяе, а што шкодзіць, дакладней кажучы: з шалупіннем старых канонаў часам выкідаем і здаровыя паэтычныя зерні са скарбніцы нашых традыцый. Я маю на ўвазе тую мясціну ў артыкуле Міхася Стральцова, дзе ён піша: «Развіццё традыцый — гэта добра, гэта і ёсць урэшце наватарства, калі разумець развіццё традыцый як **практычна мастацкае адмаўленне іх»** (падкрэслена мной. — **М. А.**). На справе аўтар гэтымі апошнімі словамі закрэслівае традыцыі, **практычна** адмаўляе іх, як непатрэбную рэч.

Я больш схіляюся да думкі Алеся Яскевіча, які таксама піша аб развіцці традыцый як аб адмаўленні іх (гл. «Маладосць» № 11 за 1962 г), але гаворыць ён менавіта аб **творчым** адмаўленні традыцый. А гэта па сутнасці ўжо творчы перагляд традыцый, не адхіленне агулам усяго, а толькі адмаўленне таго, што стаіць упоперак на шляху творчых пошукаў.

Ці можна, напрыклад, адкінуць сам творчы прынцып стварэння жывой, надзвычай эмацыянальнай карціны пагоні, выпісанай Максімам Багдановічам? Успомніце гэты верш. Перад вачыма, як жывыя, «у белай пене праносяцца коні», мы чуем іх грозны тупат, цяжкі храп, звон срэбнай збруі. Коннікі імчаць, каб пакараць здраднікаў. І паэт звяртаецца да гэтых ваякаў як да **жывых** (я зноў падкрэсліваю гэта):

> Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
> Не давайце чужынцамі быць!
> Хай пачуюць, як сэрца начамі
> Аб радзімай старонцы баліць...

А на справе ж гэта толькі паэтычнае бачанне пагоні, перанесенае ў нашае ўспрыняцце са старой эмблемы, што была змешчана калісь над Вострай Брамай у Вільні. Калі жывапіс паказвае з'яву не статычна, а ў дынаміцы, выклікае эмоцыі, розныя асацыяцыі і роздум, дык значыць ён гістарычна не зжыў сябе і яго рана здаваць у архіў. Я за такі жывапіс.

Цікава, што Багдановіч, гэты цудоўны майстар філіграннай апрацоўкі радка, паэт класічнай формы заклікаў **творча асвойваць** фальклор, бо лічыў, што паэзія можа мець вартасць для сусветнай літаратуры толькі тады, калі яна будзе глыбока нацыянальнай, калі за талентам паэта будзе стаяць цэлы народ.

Значыць і фальклорным скарбам мы не маем права пагарджаць.

Толькі з удзячнасцю я чытаю, напрыклад, адзін з новых вершаў Сяргея Дзяргая «А чаму б і не?», дзе выразна чуюцца інтанацыі з народнага:

> Адкажы ты мне,
> Адкажы ты мне!
> Хіба ты ўсе сцежкі
> выхадзіш?..
> Хіба ўсе маршчыны
> выгладзіш?
> Хіба ўсе ты слёзы
> выплачаш?
> Хіба ты ўсе крыўды
> выбачыш?..

Гэта не проста запытанні да нейкай другой асобы, а роздум паэта над складанасцю жыцця, таму і натуральна, што логіка гэтага роздуму прыводзіць не да роспачы, а да падказанага самім жыццём вываду:

> А чаму б і не?
> А чаму б і не?..
> Калі любіцца,
> кахаецца,
> Калі сэрца
> не вагаецца,
> Калі лёс, як воўк,
> не крадзецца,
> Калі сябар з сябрам
> радзяцца,
> Калі лёгка,
> не бядуецца,
> Калі новы свет
> будуецца —
> А чаму б і не?
> А чаму б і не?

Без такога творчага асваення фальклору наша паэзія выглядала б куды бядней. Эстэтычнае задавальненне з'яўляецца і надалей адным з самых практычных крытэрыяў ацэнкі твора.

СВАЕ адносіны да старога і новага мы павінны вывяраць ленінскімі словамі: «Прыгожае трэба зберагчы, узяць яго як узор, зыходзіць з яго, нават калі яно «старое». Чаму нам трэба адварочвацца ад сапраўды выдатнага, адмаўляцца ад яго, як ад зыходнага пункту для далейшага развіцця, толькі па той прычыне, што яно старое? Чаму трэба схіляцца перад новым, як перад богам, якому трэба скарыцца толькі таму, што «гэта новае»?»

Традыцыі і наватарства — гэта па сутнасці два крылы аднаго жывога «арганізму» нашай паэзіі. Тым, хто адмаўляе першае ці другое, я адкажу радкамі з верша Максіма Танка:

> Спытайце птушкі, ці змагла б
> Яна ўздымацца без крыла.

Бадай ні ў аднаго з сучасных беларускіх паэтаў плынь традыцыйная і плынь наватарская так арганічна не зліліся **ў адно** паэтычнае рэчышча, як у Максіма Танка. Зямля і хлеб, агонь і вада, радасць і боль, віно і каханне — усё, да чаго дакранецца сваім крылом песня паэта, не траціць свайго першароднага характа, ці, як сказаў сам паэт,—свайго «першабытнага прысмаку».

Эмацыянальны, «малады» лірызм вершаў «Мне пару крыл дало юнацтва», «Ну і вечар вясновы», «Плача хмара без жалю», «Спакойнай ночы», «Пагроза» — гэта ўзмах толькі аднаго «традыцыйнага» крыла танкаўскай паэзіі. Сілу другому крылу дае, паводле слоў паэта, «парыў да сонца, да свабоды». І тут Максім Танк найбольш праявіўся як наватар — не таму толькі, што ўсё часцей і часцей пачаў звяртацца да новай «нялёгкастраўнай формы», а таму, што само паэтычнае мысленне, само напаўненне формы глыбокім зместам стала па-сапраўднаму сучасным, наватарскім.

Колькі цяжкіх думак і асацыяцый выклікае, напрыклад, суровы верш «Дзе яны?». Трагізм перададзены праз вобразы «двух у блакітнай вопратцы анёлаў», якіх паэт убачыў у прытворы старой спаленай фашыстамі царквы. Звярніце ўвагу, як **рэальнае** бачанне гэтых анёлаў непрыкметна пераходзіць у бачанне **паэтычнае:**

> Яны,
> Як сведчыў надпіс,
> Запісвалі: хто ўваходзіў
> І хто выходзіў з храма.
>
> У першым спісе
> Я прачытаў больш тысячы
> Імён і прозвішч,
> Але ў другім —
> Я не знайшоў нікога.
> Няўжо ніхто
> Не выйшаў з гэтых сцен?
> Скажыце:
> Дзе яны?
>
> Але маўчалі і анёлы
> З апаленымі крыламі,
> І іх таксама
> Кулі
> Не мінулі.

Гэтыя анёлы з іх страшнымі спісамі маглі б сведчыць на любым антыфашысцкім судовым працэсе.

Эстэтычныя прынцыпы творчасці Максіма Танка нельга да канца зразумець без яго філасофска-публіцыстычнага «Трактата аб паэзіі». У яго ўчытваешся, нібы ў навуковае даследаванне. І чым больш спыняешся над радкамі, тым больш важкімі яны здаюцца табе, тым больш верыш паэту. Міжволі прымяраеш самога сябе, сваё разуменне жыцця да таго, як адчувае і разумее яго паэт. Правяраеш сябе, ці думаеш так, як ён, ці стала для цябе ў такой меры дарагім усё, што дорага і свяшчэнна для паэта:

> Для мяне камунізм —
> Не ікона,
> А праўда жыцця, без якой
> Не даражыў бы сягоння
> Зямлёй.
>
> Я адкласці магу купіць хлеба і солі
> Ці сустрэчу з каханай і славай,
> Але барацьбу за нязгасную мару
> Ніколі
> Я не адкладу,
> Бо гэта — важнейшая справа.

Учытваешся і прымаеш гэтыя глыбокія радкі, як свае, як народжаныя сваім сэрцам. І тады далей бачыцца, паўней адчуваецца і больш упэўнена крочыцца па шляху пошукаў таго запаветнага слова, пра якое так хараша і важка сказаў паэт:

> Калі і памру я
> (Як нейкі дзівак гаварыў пра сябе)
> Дык не ад прастуды
> Ці нейкай хваробы старэчай,
> А проста — ад смагі слоў новых,
> Якіх не хапае
> Для новаадкрытых планетаў,
> Законаў і формул,
> Для нашай сусветнай любві.

# СТАНОЎЧАМУ ГЕРОЮ—«ЗЯЛЁНУЮ ВУЛІЦУ»!

Мы жывём у той час, калі камунізм стаў блізкім і рэальным будучым, калі пытанне — як жыць па-камуністычнаму — усё больш цікавіць людзей. «Якім павінен быць чалавек камуністычнага грамадства?» — адказ на гэтае пытанне чытач шукае і ў мастацкай літаратуры. Іменна яна павінна паказаць сучаснага чалавека, у характары якога ўжо былі б прыкметныя рысы грамадзян будучага. Магчыма, гэтае патрабаванне ўсім зразумелае і даволі агульнае. Аднак час ад часу варта аб ім напамінаць нашым літаратарам.

Шукаючы адказу, чытач бярэ ў рукі кнігу, скажам, Барыса Сачанкі «Барвы ранняй восені». Чытае апавяданне за апавяданнем. Аб тым, як хлопец вяртаецца з турмы і баіцца ісці ў родную вёску: дакараць будуць. («З'еду я куды-небудзь у Сібір ці на цаліну падамся... Абы дома не быць»). Аб тым, як брыгадзірава жонка бегае ноччу ў каноплі да студэнта. («Ён думае, што час ужо канчаць гэтыя начныя спатканні, пакуль усё не выкрылася, і ехаць, уцякаць з вёскі... А толькі прымеркнецца, агародамі, па захлеўю, нібы зладзей, зноў крадзецца ў каноплі»). Аб тым, як чалавек спазніўся дадому і баіцца аскандаліцца з жонкай. («Ну вось, цяпер зноў ідзі ўгаворвай, даказвай»).

Не задаволіўшыся апавяданнямі, чытач паглыбляецца ў аповесць... Хлопец кахае дзяўчыну. Але сапраўднай барацьбы за шчасце няма. Каханыя засталіся нешчаслівыя (аповесць «Мальвіна»). Галоўны персанаж аповесці «Палон» на працягу ўсяго твора не знаходзіць ды і, бадай, не вельмі імкнецца знайсці сваё пэўнае месца ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі.

Могуць сказаць, што ўвогуле не гераічныя вобразы прыцягваюць творчую ўвагу Б. Сачанкі, а простыя, нічым асаблівым непрыкметныя людзі, пераважна тыя, якім чамусьці не пашанцавала ў жыцці. Але і да «простага чалавека» патрэбна падыходзіць з патрабаваннем высокіх норм нашай камуністычнай маралі. Ва ўсякім разе не адносіцца з усёдараваннем да бедных духам людзей, не спачуваць ім за тое, што яны бязвольныя інтэлектуальныя жабракі. Думаю, што мае рацыю паэт Яўгеній Еўтушэнка, калі ў часопісе «Вопросы литературы» зусім слушна заўважае: «Па-першае, пісьменнік павінен быць ласкавы да людзей, любіць іх і разумець. Але абавязкова і другое: пісьменнік павінен быць непрымірыма строгі як да сябе, так і да недахопаў іншых людзей».

На жаль, Б. Сачанка, відаць, прымае аднабакова толькі першую ўмову творчасці пісьменніка. І не толькі ён. Возьмем кнігу яго літаратурнага равесніка — Івана Пташнікава «Чакай у далёкіх Грынях». У адносінах да герояў гэтага рамана Андрэя Дзедзіхі і Аркадзя аўтар ставіцца з падкрэслена залішнім жалем. Усёдараванне — вось пазіцыя аўтара. Што датычыць зусім станоўчых (па задуме пісьменніка) герояў твора, то яны выглядаюць на старонках рамана беднымі характарамі. Для іх не знайшлося патрэбных мастацкіх фарбаў.

Актыўнасць — самая характэрная рыса нашага сучасніка. Такога мы жадаем бачыць героя савецкай літаратуры. А яе якраз і нестае станоўчым персанажам рамана І. Пташнікава.

Праблемай № 1 сёння з'яўляецца стварэнне станоўчага героя. Беларуская літаратура нашых дзён, на маю думку, яшчэ далёка ад вырашэння гэтай праблемы. Бясспрэчна, да лепшых твораў нашай сённяшняй літаратуры адносіцца амаль што гістарычны раман І. Мележа «Людзі на балоце». Але і тут характары станоўчых дзеючых асоб — асабліва Апейка і Міканор — не раскрыты ўсебакова. Больш-менш пераканаўча паказана іх грамадская сутнасць. А буйных жывых характараў, на маю думку, не атрымалася.

Мне здаецца, пра гэтую надзённую праблему і павінна, перш за ўсё, весціся гутарка на старонках «Літаратуры і мастацтва». Толькі зыходзячы з гэтых патрабаванняў, можна вырашаць і іншыя, у прыватнасці мастацка-стылявыя творчыя праблемы, якім так многа ўвагі аддаў М. Стральцоў і якія ён часам разглядае, на жаль, як самамэту ў пісьменніцкай працы; праблемы даволі спрэчнага, відаць, нават штучнага і памылковага, па сутнасці, падзелу Б. Бур'янам мастацкай прозы на «сапраўдную мастацкую літаратуру» і «белетрыстыку». Будзе больш удумліва весціся гаворка пра патрабавальныя, сапраўды гуманныя і спачувальныя адносіны мастакоў да чалавека ўвогуле і да літаратурнага героя.

Важна, вядома, не абстрактная спрэчка пра сучаснага героя. Важна канкрэтная размова пра вобразы, характары станоўчых герояў, у якіх у наяўнасці рысы чалавека камуністычнага грамадства; размова аб стварэнні такіх станоўчых герояў, якія былі б варты пераймання, якія паказвалі б прыклад, вучылі б, як жыць па-камуністычнаму. Станоўчаму персанажу — «зялёную вуліцу» ў нашу літаратуру! Вось заклік і патрабаванне сучаснасці да нашых пісьменнікаў.

**Мікола БАДЗЮКОЎ,**
**настаўнік Бельскай школы.**

Полацкі раён.

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА МУЗЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

У новай праграме нашай партыі ўказваецца на неабходнасць стварэння ў агульнаадукацыйных школах такіх умоў, якія забяспечылі б высокі ўзровень гарманічнага развіцця падрастаючага пакалення сродкамі розных відаў мастацтва, у тым ліку музыкі. Аднак Міністэрства асветы БССР замест таго, каб праяўляць штодзённыя клопаты аб музычным выхаванні школьнікаў, правяло ў 1961—62 навучальным годзе рад мерапрыемстваў, якія зусім не садзейнічалі гэтаму.

У кастрычніку леташняга года Міністэрства асветы накіравала абласным органам народнай асветы і абласным фінаддзелам пісьмо, складзенае сумесна з Міністэрствам фінансаў БССР, якое па сутнасці адмяняла загад № 171 Міністэрства асветы БССР—«Аб мерах па паляпшэнню музычнай адукацыі вучняў школ і педагагічных навучальных устаноў». Гэты загад даваў права выкарыстоўваць сродкі на правядзенне факультатыўных заняткаў па спевах у восьмых—дзесятых класах і на аплату кіраўнікоў двух хораў у сярэдніх школах. У пісьме ж забаранялася выдаткоўваць грашовыя сродкі на працу хораў ва ўсіх школах, што займаюцца па новым навучальным плане, а таксама на арганізацыю факультатыўных урокаў музыкі. З тае прычыны, што большасць сярэдніх школ вобласці пачала займацца па новых планах, колькасць вучнёўскіх хораў рэзка скарацілася. Напрыклад, у Мінскім раёне ў 1961—62 навучальным годзе працавала пяць хораў замест 22-х у параўнанні з 1960—61 навучальным годам, а ў Чэрвеньскім раёне хоры наогул зусім не працавалі.

Паколькі факультатыўныя гадзіны па спевах у старэйшых класах былі ліквідаваны, дык зарплата настаўніка музыкі ў V—VIII класах цяпер не перавышае 20—25 рублёў у месяц. Вядома, што на такі аклад ні адзін кваліфікаваны педагог-музыкант не пойдзе працаваць (бо яму яшчэ даводзіцца выконваць вялікую грамадскую музычную работу ў школе). Вось чаму многія настаўнікі спеваў пакідаюць школы і бяруцца за кіраўніцтва мастацкай самадзейнасцю ў клубах, дамах культуры. На працягу 1961—62 года восем кваліфікаваных выкладчыкаў спеваў пакінулі школы Мінскай вобласці, а некаторыя пачалі працаваць па сумяшчэнню ў дзвюх—трох школах. У сувязі з тым, што большасць педагогаў-музыкантаў звольнілася са школ, значна знізіўся ўзровень пазакласнай выхаваўчай работы з піянерамі.

Нельга не расказаць тут і яшчэ пра адзін прыкры факт. Калі ў канцы 1961 года зацвярджалі штаты абласных інстытутаў удасканалення настаўнікаў, Міністэрства асветы скараціла пасаду метадыста па спевах. А ён жа з'яўляўся адзіным кампетэнтным у музыцы чалавекам, які памагаў нам сваімі парадамі, арганізоўваў творчыя семінары. Як ні дзіўна, міністэрства чамусьці вырашыла, што пытаннямі музычнай асветы вучняў могуць займацца метадысты... пазакласнай і пазашкольнай работы. У сапраўднасці ж гэта зусім не рэальная справа. Бо аб'ём пазакласнай і пазашкольнай работы настолькі вялікі і разнастайны, што ў метадыста не хопіць ніводнай свабоднай мінуты на наведанне ўрокаў спеваў і вывучэнне стану выкладання гэтага прадмета ў школах. Ставіць так пытанне—значыць цалкам абязглавіць усю метадычную работу па музычнай асвеце вучняў вобласці. Мы просім Міністэрства асветы рэспублікі пры зацвярджэнні новага бюджэту і штатаў на 1963 год абавязкова зноў увесці пасаду метадыста па спевах у інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, а таксама вырашыць цэлы рад іншых пытанняў, звязаных з паляпшэннем музычна-эстэтычнага выхавання вучняў.

**Л. ІВАШКА, Г. ДЭУСАВА, І. ШМУРАДКА, М. РАБІНЬ, Т. ГАПОНЕНКА, О. ЛАЗАР, Я. ЧАРЭНДА, А. КАРЭБА, І. ЮРКАВЕЦ, Л. МАРКОВІЧ,**
**настаўнікі спеваў школ Мінскай вобласці.**

